• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 4000 рублёў

29 снежня 1998 г. аўторак, № 248 (23599)

# ЗВЯЗДА



## «МІНІМАЛКУ» — ДА 500 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ

**Як паведаміў рэдакцыі першы намеснік міністра працы Валерый Паўлаў, з 1 студзеня 1999 года ўрад краіны ўстанаўлівае новы памер мінімальнай заработнай платы — 500 тысяч рублёў і тарыфнай стаўкі I разраду — 1200 тысяч рублёў.**

Разам з тым у лютым будуць павышаны памеры фіксаваных даплат для нізкааплатных катэгорый работнікаў. Нагадваем, што ў апошні раз «мінімалку» і тарыфную стаўку павышалі ў кастрычніку і зараз памеры іх раўняюцца адпаведна 350 і 700 тысяч рублёў. Атрымліваецца, што ў новым годзе заробкі работнікаў бюджэтнай сферы павялічацца ў сярэднім на 71 працэнт.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## У СТУДЗЕНІ ЗНОЎ УЗРАСТУЦЬ ПЕНСІІ

**У студзені будзе праведзены чарговы пераразлік пенсій. Такую інфармацыю паведамілі ўчора карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве сацыяльнай абароны.**

Варта нагадаць, што паводле цяперашняга заканадаўства пераразлік працоўных пенсій робіцца ў выпадку, калі сярэдняя зарплата рабочых і служачых у краіне перавышае 15-працэнтны парог. Паводле апошніх даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, у параўнанні з кастрычніцкімі заробкамі (зыходзячы з якіх пераразлічваліся пенсіі ў снежні) рост сярэдняй зарплаты ў лістападзе склаў 11,7 працэнта. Нягледзячы на гэта пераразлік пенсій у студзені ўсё ж адбудзецца: такое рашэнне было прынята днямі ўрадам краіны.

У сярэднім студзеньскія пенсіі ўзрастуць на 12,9 працэнта. Памер максімальнай працоўнай пенсіі складзе ў наступным месяцы 3 млн. 653,8 тыс., сярэдняй — 3 млн. 50 тыс., а мінімальнай — 1 млн. 500 тыс. рублёў. Апроч таго, у сувязі з павышэннем з 1 студзеня мінімальнай зарплаты з 350 да 500 тысяч павысяцца памеры надбавак і павышэнняў для асобных катэгорый пенсіянераў.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ПРЭЗІДЭНТ АДОБРЫЎ РАБОТУ КАМІСІІ...

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка 28 снежня 1998 года прыняў старшыню Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па правах чалавека і нацыянальных адносінах Нацыянальнага сходу Ю.А.Кулакоўскага.**

Як паведаміла прэс-служба прэзідэнта, Ю.А.Кулакоўскі, які з'яўляецца старшынёй камісіі па праверцы выканання заканадаўства аб зваротах грамадзян, створанай у адпаведнасці з распараджэннем Прэзідэнта, далажыў кіраўніку дзяржавы аб дзейнасці камісіі. Прэзідэнт адобрыў работу камісіі і даручыў прадоўжыць яе. Было прапанавана ўмацаваць камісію групай незалежных юрыстаў, у задачу якіх уваходзіла б падрыхтоўка заключэнняў па шэрагу спраў, звязаных са зваротамі грамадзян. Ю.А.Кулакоўскі праінфармаваў кіраўніка дзяржавы аб рабоце над праектам Закона аб упаўнаважаным па правах чалавека. Прэзідэнтам былі выказаны некаторыя заўвагі, якія датычаць увядзення гэтага інстытута ў Беларусі. Ён падкрэсліў, што гэта павінен быць дзейсны орган, а не нейкая бюракратычная структура.

**БЕЛТА.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 28 СНЕЖНЯ 1998 г. (па стану на 10.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефоны для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| «Технобанк» | 220000 | 240000 | 130000 | 143000 | 10000 | 12000 | 283-15-00 |
| «Славнефтебанк» | 230000 | 240000 | 135900 | 142900 | 11500 | 12100 | 216-23-91 |
| Афіцыйны курс Нацыянальнага банка РБ | 107000,00 | | 63713,23 | | 5100,00 | | Курс на 29.12.1998 |
| Курс, устаноўлены НБ РБ | 220000,00 | | 130999,17 | | 10480,00 | | |
| Цэнтрабанк Расіі (Масква) | 20,9900 | | 12,4874 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

# ПРЭЗІДЭНТЫ БЕЛАРУСІ І РАСІІ ПРАЦЯГВАЮЦЬ ІСЦІ ПА ШЛЯХУ ЯДНАННЯ ДЗВЮХ ДЗЯРЖАЎ І НАРОДАЎ

Працэс збліжэння Беларусі і Расіі быў пачаты, прадоўжаны і, на думку Аляксандра Лукашэнкі, павінен завяршыцца першымі прэзідэнтамі дзвюх краін Барысам Ельцыным і Аляксандрам Лукашэнкам. Пасля падпісання 2 красавіка 1997 года Дагавора аб Саюзе Беларусі і Расіі новая сур'ёзная заяўка на стварэнне адзінай саюзнай дзяржавы была зроблена кіраўнікамі дзвюх краін 25 снежня 1998 года. У гэты дзень у Крамлі адбылася, як заявіў Барыс Ельцын, сапраўды гістарычная падзея — два прэзідэнты замацавалі сваімі подпісамі Дэкларацыю аб далейшым яднанні Беларусі і Расіі. Паводле слоў кіраўніка расійскай дзяржавы, гэты дакумент адкрывае новую старонку ва ўзаемаадносінах дзвюх краін, увасобіўшы ў сабе імкненні беларускага і расійскага народаў насустрач адзін аднаму. Канчатковае завяршэнне гэтага працэсу, як запісана ў Дэкларацыі, павінна адбыцца да сярэдзіны наступнага года, калі будзе вынесены на ўсенароднае абмеркаванне дагавор аб аб'яднанні Расіі і Беларусі ў саюзную дзяржаву.



Абодва прэзідэнты ў сваіх заявах выказалі агульную надзею на тое, што ў саюзнай дзяржаве жыццё народаў будзе лепшым і багацейшым. Больш моцным будзе і ўплыў новага дзяржаўнага аб'яднання на міжнароднай арэне, паколькі і Беларусь, і Расія будуць праводзіць агульную палітыку на міжнароднай арэне, а таксама ўзгоднена дзейнічаць у пытаннях абароны і бяспекі.

Згодна з Дэкларацыяй, у саюзнай дзяржаве будуць створаны саюзныя дзяржаўныя органы і адпаведныя наднацыянальныя органы кіравання, сфарміраваны адзіны бюджэт. Разам з тым абедзве краіны застаюцца суверэннымі і паўнапраўнымі членамі міжнароднага супольніцтва дзяржаў, захоўваюць усе правы і абавязацельствы па міжнародных дагаворах.

Барыс Ельцын і Аляксандр Лукашэнка заявілі таксама і аб тым, што ўсе важныя моманты ў працэсе стварэння аб'яднанай саюзнай дзяржавы, якія выходзяць за рамкі дзеючых цяпер канстытуцый дзвюх краін, будуць абавязкова прадстаўлены на суд грамадзян Расіі і Беларусі. За спінай народаў такія важныя рашэнні, як стварэнне адзінай дзяржавы, прымацца не будуць, запэўнілі абодва прэзідэнты.

25 снежня былі падпісаны яшчэ два дакументы, якія маюць важнае практычнае значэнне для ўмацавання працэсу збліжэння дзвюх дзяржаў. Размова ідзе аб пагадненні паміж Расіяй і Беларуссю, якое прадугледжвае стварэнне аднолькавых умоў суб'ектам гаспадарання, і дагавора аб роўных правах грамадзян дзвюх краін. Дзеянне апошняга ажыццяўляецца з моманту падпісання, а рэалізацыя пагаднення распісана ў спецыяльным пратаколе да яго на першыя тры месяцы 1999 года. На думку Аляксандра Лукашэнкі, выказаную ім як пасля падпісання дакументаў, так і ў інтэрв'ю прадстаўнікам мас-медыя, два гэтыя дакументы азначаюць вялікі прарыў у эканамічным і сацыяльным напрамку саюза дзвюх.

І на самай справе, дагаворам аб роўных правах грамадзян прадугледжваецца надзяленне беларусаў і расіян роўнымі правамі ў выбарчай кампаніі ў выбарныя органы Саюза, ва ўдзеле ў гаспадарчай дзейнасці на тэрыторыях дзвюх дзяржаў, атрыманні ўсіх відаў адукацыі, а таксама медыцынскага абслугоўвання. Акрамя таго, грамадзяне абедзвюх краін маюць з гэтага часу роўныя правы на працаўладкаванне, аплату працы і прадастаўленне іншых сацыяльна-прававых гарантый на тэрыторыях Расіі і Беларусі.

Пагадненне аб стварэнні аднолькавых умоў суб'ектам гаспадарання, у сваю чаргу, прадугледжвае забеспячэнне роўных правоў, абавязкаў і гарантый прадпрыемствам, іх аб'яднанням, арганізацыям любых арганізацыйна-прававых формаў, а таксама грамадзянам, якія валодаюць статусам прадпрымальніка на тэрыторыях дзвюх дзяржаў. Пры ўзаемным гандлі павінна быць забяспечана прымяненне свабоднага цэнаўтварэння, а выкарыстанне рэгулюемых цэн і тарыфаў будзе забяспечвацца на аснове цэн і тарыфаў, якія складваюцца на ўнутраных рынках.

У пратаколе да гэтага пагаднення падрабязна вызначаны ўсе этапы ўвасаблення ў жыццё прынцыпаў, запісаных у дакуменце. У прыватнасці, у студзені наступнага года павінна быць прынята рашэнне аб механізме функцыянавання рэжыму найбольшага спрыяння, вызвалення ад пошлін і прадастаўлення тарыфных прэферэнцый і тарыфных ільгот. Акрамя таго, за першыя тры кварталы 1999 года абодва бакі абавязаны уніфікаваць падатковае, грамадзянскае і гаспадарчае заканадаўствы. І нарэшце, у сакавіку Вышэйшы Савет Саюза Беларусі і Расіі павінен атрымаць прапановы па паэтапнаму ўвядзенню адзінай валюты і фарміраванню адзінага эмісійнага цэнтра.

Паводле прызнання кіраўнікоў абедзвюх дзяржаў, Беларусь і Расія павінны ўвайсці ў XXI стагоддзе як адзінае цэлае. Разам з тым, трэба будзе яшчэ правесці немалую работу па вырашэнню ўсіх эканамічных, палітычных і сацыяльных пытанняў. Каардынаваць гэту работу будуць спецыяльна створаныя рабочыя групы, узначаленыя кіраўнікамі адміністрацый прэзідэнтаў дзвюх краін. Міхаіл Мясніковіч і Мікалай Бардзюжа атрымалі ўжо ўдзячнасць ад Барыса Ельцына і Аляксандра Лукашэнкі за паспяхова праведзеную працу па падрыхтоўцы да снежаньскіх сустрэч двух прэзідэнтаў, якія адбыліся ў сярэдзіне і ў канцы месяца ў Крамлі.

Калі ў час рабочага візіту Аляксандра Лукашэнкі ў Маскву 16—18 снежня словы прэзідэнта Беларусі аб перадначаваным падарунку для грамадзян абедзвюх дзяржаў не ўсе ўспрынялі дастаткова сур'ёзна, асабліва гэта датычыць расійскіх сродкаў масавай інфармацыі, то выкананне абяцанага праз тыдзень пацвердзіла рашучасць кіраўнікоў дзвюх дзяржаў цвёрда ісці па шляху яднання Расіі і Беларусі. На думку Аляксандра Лукашэнкі, затармазіць гэты працэс ужо будзе даволі цяжка, паколькі гарантамі выступілі першыя асобы абедзвюх краін. Нельга не сказаць і аб тым, што беларускі прэзідэнт вялікую падтрымку ў сваіх інтэграцыйных ініцыятывах атрымаў, паводле яго сведчання, ад прэм'ер-міністра Расіі Яўгена Прымакова. Менавіта з прыходам гэтага чалавека на пасаду кіраўніка расійскага ўрада Расія актыўна ўключылася ў працэс збліжэння дзвюх дзяржаў, а таксама пачалі вырашацца многія практычныя пытанні эканамічнага характару, у тым ліку ўзгадненне прынцыпаў узаемаразлікаў за пастаўкі прадукцыі, умацаванне ўзаемнага тавараабароту і іншыя важныя гандлёва-эканамічныя моманты ў расійска-беларускім супрацоўніцтве.

Вялікую ролю ў збліжэнні Расіі і Беларусі, на думку двух прэзідэнтаў, адыграла і працягвае адыгрываць наладжванне прамых кантактаў нашай краіны з расійскімі рэгіёнамі. Апошнія ініцыятывы кіраўнікоў дзвюх дзяржаў яшчэ больш будуць садзейнічаць умацаванню гэтага напрамку расійска-беларускага супрацоўніцтва. Акрамя таго, як не раз падкрэсліваў Аляксандр Лукашэнка, надышоў час ад тэндэнцыі раз'яднання дзяржаў перайсці да іх аб'яднання, асабліва калі размова ідзе аб такіх блізкіх па гісторыі, культуры і духу краінах, як Расія і Беларусь. Ён таксама не выключае, што да расійска-беларускага працэсу збліжэння падключацца і іншыя рэспублікі былога СССР.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## ДАГАВОР
## паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй аб роўных правах грамадзян

Рэспубліка Беларусь і Расійская Федэрацыя, у далейшым называемыя «Дагаворныя Бакі»,

у мэтах павышэння ўзроўню жыцця народаў, стварэння спрыяльных умоў для ўсебаковага гарманічнага развіцця асобы, забеспячэння роўных правоў грамадзян Саюза на тэрыторыі кожнага з Бакоў,

абапіраючыся на імкненне народаў да яднання,

у выкананне мэтаў і задач, ускладзеных на Саюз Беларусі і Расіі Статутам Саюза Беларусі і Расіі, грунтуючыся на Дагаворы аб Саюзе Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 года і развіваючы яго палажэнні ў мэтах далейшага збліжэння сваіх народаў і забеспячэння дзейснай інтэграцыі ў розных сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця,

дамовіліся аб наступным:

**Артыкул 1**

Грамадзяне Беларусі і Расіі валодаюць роўнымі правамі выбіраць і быць выбранымі ў выбарныя органы Саюза.

**Артыкул 2**

Грамадзяне Беларусі і Расіі маюць роўныя правы на ўдзел у гаспадарчай дзейнасці на тэрыторыях Дагаворных Бакоў.

**Артыкул 3**

Грамадзяне Беларусі і Расіі карыстаюцца роўнымі грамадзянскімі правамі і свабодамі, як гэта прадугледжана заканадаўствамі Дагаворных Бакоў.

**Артыкул 4**

Дагаворныя Бакі забяспечваюць даступнасць і роўныя правы грамадзян у атрыманні сярэдняй, сярэдняй спецыяльнай, вышэйшай і паслявузаўскай прафесійнай адукацыі. Абітурыенты паступаюць у навучальныя ўстановы на аснове дзеючых правілаў прыёму.

**Артыкул 5**

Абмен жылымі памяшканнямі паміж грамадзянамі Беларусі і Расіі ажыццяўляецца бесперашкодна ў адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам і з'яўляецца падставай для выдачы ім дазволаў на пастаяннае жыхарства на тэрыторыях Дагаворных Бакоў.

**Артыкул 6**

Дагаворныя Бакі забяспечваюць роўнае права іх грамадзян на набыццё, валоданне, карыстанне і распараджэнне маёмасцю на сваіх тэрыторыях.

Бясплатнае атрыманне грамадзянамі дзяржаўнай і муніцыпальнай маёмасці ці набыццё яе ў адпаведнасці з дзеючымі ў працэсе прыватызацыі льготамі рэгулюецца нацыянальным заканадаўствам у галіне прыватызацыі.

Дагаворныя Бакі забяспечваюць гарантаваную абарону права ўласнасці іх грамадзян.

**Артыкул 7**

Дагаворныя Бакі забяспечваюць грамадзянам Беларусі і Расіі роўныя правы на працаўладкаванне, аплату працы і прадастаўленне іншых сацыяльна-прававых гарантый на тэрыторыях Беларусі і Расіі.

Грамадзяне Беларусі і Расіі маюць роўныя правы ў аплаце працы, рэжыме рабочага часу і часе адпачынку, ахове і ўмовах працы і іншых пытаннях працоўных адносінаў. Працоўная дзейнасць рэгулюецца на аснове працоўнага дагавора (кантракта) у адпаведнасці з заканадаўствам аб працы. Дагаворныя Бакі забяспечваюць узаемнае прызнанне працоўнага стажу, уключаючы стаж, які налічаецца ў льготным парадку, і стаж работы па спецыяльнасці, набыты ў сувязі з працоўнай дзейнасцю грамадзян.

**Артыкул 8**

Грамадзянам Беларусі і Расіі забяспечваюцца роўныя правы на сацыяльнае забеспячэнне, медыцынскую дапамогу і доступ да паслуг лячэбна-аздараўленчых установ на тэрыторыях Дагаворных Бакоў.

Узаемаразлікі за аказанне хуткай і неадкладнай медыцынскай дапамогі і лячэнне сацыяльна значных захворванняў не вядуцца.

**Артыкул 9**

Дагаворныя Бакі прывядуць на працягу 1999 года дзеючае заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Дагаворам.

**Артыкул 10**

Дагаворныя Бакі будуць прымаць неабходныя меры для ажыццяўлення рашэнняў Вышэйшага Савета і Выканаўчага Камітэта Саюза Беларусі і Расіі па забеспячэнню роўных правоў грамадзян Беларусі і Расіі.

**Артыкул 11**

Дагаворныя Бакі ствараюць Камісію па правах чалавека. Кампетэнцыя, умовы фарміравання і парадак дзейнасці Камісіі вызначаюцца асобным пагадненнем Дагаворных Бакоў.

**Артыкул 12**

Асобныя палажэнні гэтага Дагавора, якія не супярэчаць заканадаўству Дагаворных Бакоў і іх міжнародным абавязацельствам, прымяняюцца часова з 1 студзеня 1999 года.

Дагавор падлягае ратыфікацыі і ўступае ў сілу з моманту абмену ратыфікацыйнымі граматамі.

Учынена ў г. Маскве 25 снежня 1998 года ў двух экземплярах на рускай мове.

**За Рэспубліку Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА**
**За Расійскую Федэрацыю**
**Б. ЕЛЬЦЫН.**

## ДЭКЛАРАЦЫЯ
## аб далейшым яднанні Беларусі і Расіі

Працэс усёабдымнай інтэграцыі Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі, атрымаўшы магутны імпульс у выніку падпісання 2 красавіка 1997 года Дагавора аб Саюзе Беларусі і Расіі, няўхільнае прасоўванне дзвюх дзяржаў па шляху да добраахвотнага аб'яднання абапіраюцца на трывалы фундамент агульнасці лёсаў, гістарычных каранёў і традыцыйнай дружбы брацкіх народаў, непарыўнасці іх роднасных вузаў, духоўнай і культурнай блізкасці, супадзення інтарэсаў і цеснага ўзаемадзеяння ў палітычнай, геастратэгічнай, эканамічнай, гуманітарнай, абароннай галінах, у паслядоўным правядзенні ўзгодненага курсу на ўмацаванне Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Саюз Беларусі і Расіі, створаны ў адпаведнасці з воляй іх народаў, даказаў сваю жыццяздольнасць, на справе прадэманстраваў перавагі глыбокай інтэграцыі.

Грамадзяне абедзвюх дзяржаў дзякуючы зняццю пагранічных і мытных бар'ераў, прадастаўленню ім роўных правоў у галіне адукацыі, медыцынскай дапамогі, у пытаннях працаўладкавання і аплаты працы, набыцця і выкарыстання маёмасці не павінны больш адчуваць сябе чужаземцамі на тэрыторыі адзін аднаго.

Забяспечаны значны прырост узаемнага гандлю, ажыццяўляецца цэлы шэраг буйнамаштабных сумесных праграм і праектаў, што дазваляе захоўваць і нарошчваць прамысловы і навукова-тэхнічны патэнцыял, ствараць новыя рабочыя месцы, больш эфектыўна вырашаць сацыяльныя пытанні.

Разам з тым аналіз развіцця інтэграцыйных працэсаў у Саюзе паказвае, што магчымасці аб'яднання эканамічнага і духоўнага патэнцыялу нашых краін выкарыстоўваюцца далёка не цалкам. Асабліва наглядна гэта праявілася ў апошнія месяцы ва ўмовах нарастання глабальных і рэгіянальных крызісных з'яў.

Беларусь і Расія прайшлі шлях ад Садружнасці да Саюза дзвюх дзяржаў. Усведамляючы неабходнасць выхаду на новы этап інтэграцыі, надання новай якасці працэсу яднання, Прэзідэнты Расіі і Беларусі заяўляюць аб рашучасці прадоўжыць паэтапны рух да добраахвотнага аб'яднання ў саюзную дзяржаву пры захаванні нацыянальнага суверэнітэту дзяржаў — удзельніц Саюза.

У гэтых мэтах Беларусь і Расія ажыццявяць наступныя сумесныя крокі.

У палітычнай сферы да сярэдзіны 1999 года будзе распрацаваны і вынесены на ўсенароднае абмеркаванне дагавор аб аб'яднанні Беларусі і Расіі ў саюзную дзяржаву.

Будуць створаны саюзныя дзяржаўныя органы і адпаведныя наднацыянальныя органы кіравання, сфарміраваны адзіны бюджэт.

Будзе выпрацаваны механізм правядзення агульнай палітыкі ў міжнародных справах, у пытаннях абароны і бяспекі.

У эканамічнай сферы будуць праведзены кардынальныя змяненні, якія павінны стаць трывалай базай далейшага збліжэння. Ужо к канцу першай паловы 1999 года будзе створана адзінае для ўсіх суб'ектаў гаспадарання прававое асяроддзе, сфарміравана адзіная мытная прастора, уніфікаваны грамадзянскае і падатковае заканадаўства, валютнае рэгуляванне і грашова-крэдытная сістэма. Завершыцца аб'яднанне энергетычнай і транспартнай сістэм, стварэнне адзінай навукова-тэхналагічнай і інфармацыйнай прасторы. будзе ажыццёўлены пераход да адзінай валюты.

Уся работа ў гэтай сферы будзе арганізавана на аснове Пагаднення аб стварэнні роўных умоў суб'ектам гаспадарання Беларусі і Расіі і Пратакола да яго.

У сацыяльна-гуманітарнай сферы будзе актыўна ажыццяўляцца збліжэнне сацыяльных стандартаў і гарантый працоўнай дзейнасці, пенсійнага забеспячэння, прадастаўлення льгот, прымянення нормаў бяспекі працы. Будуць забяспечаны захаванне і ахова правоў і свабод чалавека і грамадзяніна ў адпаведнасці з агульнапрызнанымі прынцыпамі і нормамі міжнароднага права, адзінства падыходаў да развіцця адукацыі, культуры і навукі, узаемаўзбагачэнне нацыянальных культур пры захаванні і развіцці этнічнай і моўнай самабытнасці народаў. Значнаму прасоўванню наперад у рэалізацыі гэтых напрамкаў будзе спрыяць Дагавор аб роўных правах грамадзян.

Прэзідэнты Беларусі і Расіі перакананы, што Рэспубліка Беларусь і Расійская Федэрацыя ўступяць у XXI стагоддзе ў новай якасці — як саюзная дзяржава. Гэты гістарычны крок адпавядае жыццёвым інтарэсам двух брацкіх народаў, забяспечыць умовы для ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця, ажыццяўлення наспеўшых пераўтварэнняў ва ўсіх сферах грамадскай дзейнасці, павышэння ўзроўню і якасці жыцця грамадзян, дастойнага ўдзелу ў міжнародным згуртаванні нацый.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**
**Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі**
**Б. ЕЛЬЦЫН.**

*г. Масква, 25 снежня 1998 года.*

# ПАГАДНЕННЕ

## паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй аб стварэнні роўных умоў суб'ектам гаспадарання

Рэспубліка Беларусь і Расійская Федэрацыя, далей называемыя Бакамі, у мэтах стварэння роўных умоў суб'ектам гаспадарання на тэрыторыі абедзвюх дзяржаў і эфектыўнага функцыянавання адзінай эканамічнай прасторы пагадзіліся аб наступным:

**Артыкул 1**

Для мэтаў гэтага Пагаднення пад суб'ектамі гаспадарання Бакоў разумеюцца прадпрыемствы, іх аб'яднанні, арганізацыі любых арганізацыйна-прававых формаў, а таксама грамадзяне, якія валодаюць статусам прадпрымальніка ў адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам Бакоў, і іх аб'яднанні.

**Артыкул 2**

Бакі прымуць неабходныя заканадаўчыя і іншыя меры па забеспячэнню роўных правоў, абавязкаў і гарантый суб'ектам гаспадарання Бакоў.

Бакі забяспечаць уніфікацыю заканадаўства ў адпаведнасці з пратаколам да гэтага Пагаднення, які з'яўляецца яго неад'емнай часткай.

**Артыкул 3**

Пры ўзаемным гандлі Бакі забяспечаць прымяненне свабоднага цэнаўтварэння, а выкарыстанне рэгулюемых цэн (тарыфаў) — на аснове цэн (тарыфаў), якія складваюцца на ўнутраных рынках.

**Артыкул 4**

У мэтах захавання ўзаемных інтарэсаў Бакі будуць разам кантраляваць ход выканання гэтага Пагаднення, разглядаць эканамічныя вынікі яго рэалізацыі і пры неабходнасці ўносіць у яго змяненні і дапаўненні.

**Артыкул 5**

Гэтае Пагадненне ўступае ў сілу ў даты падпісання і спыняе сваё дзеянне пасля заканчэння шасці месяцаў з моманту, калі адзін з Бакоў паведаміць у пісьмовай форме другому Боку аб сваім намеры спыніць яго дзеянне.

Учынена ў г. Маскве 25 снежня 1998 года ў двух экземплярах на рускай мове.

**За Рэспубліку Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**
**За Расійскую Федэрацыю**
**Б. ЕЛЬЦЫН.**

# СУМЕСНАЯ ЗАЯВА

## Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі і Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Б. М. Ельцына

Беларусь і Расія зрабілі гістарычны крок па шляху яднання дзвюх брацкіх краін і народаў: 25 снежня 1998 года ў Маскве мы падпісалі Дэкларацыю аб стварэнні ў надыходзячым годзе Саюзнай дзяржавы, дагавор і пагадненне аб забеспячэнні роўных правоў грамадзян нашых дзяржаў на тэрыторыі Беларусі і Расіі.

Стварэнне саюзных органаў дзяржаўнай улады і кіравання, якім Беларусь і Расія дэлегуюць шырокія паўнамоцтвы ў сацыяльна-эканамічнай галіне, у сферы знешняй палітыкі, забеспячэння абароны і бяспекі, заклікана аб'яднаць намаганні нашых краін і народаў для эфектыўнага адказу на выклікі XXI стагоддзя.

Беларусь і Расія застаюцца суверэннымі і паўнапраўнымі членамі міжнароднага супольніцтва дзяржаў, захоўваюць усе правы і абавязацельствы па міжнародных дагаворах, удзельнікамі якіх яны з'яўляюцца.

*Масква, 25 снежня 1998 года.*

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 623

# Аб правядзенні выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў Рэспублікі Беларусь

1. У адпаведнасці з пунктам 2 артыкула 84 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і артыкулам 14 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь» назначыць выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў Рэспублікі Беларусь дваццаць трэцяга склікання на нядзелю, 4 красавіка 1999 г.

2. Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў зацвердзіць каштарыс расходаў на падрыхтоўку і правядзенне выбараў ў мясцовыя Саветы дэпутатаў у межах сродкаў, якія прадугледжваюцца ў рэспубліканскім бюджэце, і ў мэтах дадатковага фінансавання выбарчай кампаніі стварыць пазабюджэтны фонд для добраахвотнага пералічэння ў яго сродкаў грамадскімі аб'яднаннямі, прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі і грамадзянамі Рэспублікі Беларусь.

3. Рэдакцыям «Народнай газеты», газет «Советская Белоруссия» і «Звязда» не пазней чым у пяцідзённы тэрмін з дня назначэння выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў апублікаваць Закон Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь».

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

устанавіць парадак прадастаўлення дзяржаўнымі органамі, прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі ў распараджэнне выбарчых камісій, неабходных для падрыхтоўкі і правядзення выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў памяшканняў, абсталявання, сродкаў сувязі і транспартных сродкаў;

у пяцідзённы тэрмін з дня зацвярджэння каштарысу расходаў на падрыхтоўку і правядзенне выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў забяспечыць фінансаванне расходаў на гэтыя мэты.

5. Дзяржаўнаму камітэту па друку забяспечыць:

тэрміновае выданне масавым тыражом брашур з тэкстам Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь» і дастаўку іх ва ўсе раёны і гарады рэспублікі;

друкаванне:

па заказу Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў — дакументаў па выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў, якія выпрацоўваюцца цэнтралізавана;

па заказах акруговых, тэрытарыяльных выбарчых камісій, кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў не пазней чым за пятнаццаць дзён да выбараў — плакатаў з біяграфічнымі данымі і праграмамі кандыдатаў у дэпутаты і не пазней чым за восем дзён да выбараў — выбарчых бюлетэняў і паштовак-паведамленняў.

6. Міністэрству сувязі прыняць меры па забеспячэнню Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, акруговых, тэрытарыяльных і ўчастковых выбарчых камісій неабходнымі сродкамі сувязі ва ўстаноўленым парадку.

7. Абласным, Мінскаму гарадскому, раённым, гарадскім, пасялковым, сельскім выканаўчым камітэтам, раённым адміністрацыям у гарадах забяспечыць выкананне ва ўстаноўленыя Законам Рэспублікі Беларусі «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь» тэрміны ўсіх аднесеных да іх кампетэнцыі арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да выбараў ў мясцовыя Саветы дэпутатаў, усямерна садзейнічаць выбарчым камісіям у ажыццяўленні імі сваіх паўнамоцтваў, забяспечыць своечасовае прадастаўленне ім неабходных для работы памяшканняў, абсталявання, транспарту, а таксама звестак і матэрыялаў.

8. Сродкам масавай інфармацыі ўсебакова і аб'ектыўна асвятляць пытанні падрыхтоўкі да выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў і правядзення галасавання.

9. Пракуратуры, Міністэрству ўнутраных спраў забяспечыць пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў захаванне законнасці і грамадскага парадку, з тым, каб кожны выбаршчык меў рэальныя магчымасці для ажыццяўлення сваіх канстытуцыйных правоў на ўдзел у выбарах і свабоднае волевыяўленне ў ходзе выбараў.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**
*24 снежня 1998 г. г.Мінск.*

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі ападкі. Вецер заходні, 6—11 м/сек. Тэмпература паветра ў Гродне — 0—2, Віцебску — 1—3, Мінску, Брэсце, Магілёве — 2—4, Гомелі — 3—5 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў, на дарогах месцамі галалёдзіца. Вецер слабы. Тэмпература 30-га на працягу сутак 0—5, 31-га ўначы — 3—8, удзень — 1—6 градусаў ніжэй нуля.

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 616

# АБ УДАКЛАДНЕННІ АСОБНЫХ ПАКАЗЧЫКАЎ БЮДЖЭТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НА 1998 ГОД

У сувязі з перавышэннем паступленняў у рэспубліканскі бюджэт даходаў, прадугледжаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 кастрычніка 1998 г. № 478 «Аб удакладненні паказчыкаў бюджэту Рэспублікі Беларусь на 1998 год», а таксама неабходнасцю фінансавання дадатковых мерапрыемстваў па падтрымцы рэальнага сектара эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва за кошт бюджэтных сродкаў **пастанаўляю:**

1. Удакладніць даходы рэспубліканскага бюджэту на 1998 год па асноўных крыніцах у наступных сумах:

*Млн. рублёў*

| | |
|---|---|
| Бягучыя даходы | +2 792 200,0 |
| Бягучыя падатковыя даходы | +3 151 700,0 |
| Прамыя падаткі на даходы і прыбытак | +1 692 000,0 |
| у тым ліку з юрыдычных асоб | +1 692 000,0 |
| з іх падатак на прыбытак | +1 692 000,0 |
| Падаткі, якія бяруцца з фонду заработнай платы | +241 000,0 |
| у тым ліку надзвычайны падатак | +241 000,0 |
| Унутраныя падаткі на тавары і паслугі | +1 886 380,0 |
| у тым ліку: | |
| падатак на дабаўленую вартасць | +193 345,0 |
| акцызы | +1 893 035,0 |
| падаткі за карыстанне таварамі або за правы карыстацца таварамі ці займацца пэўнымі відамі дзейнасці | -200000,0 |
| з іх збор за праезд аўтатранспартных сродкаў па аўтамабільных дарогах агульнага карыстання Рэспублікі Беларусь | -200000,0 |
| Даходы ад знешняга гандлю і знешнеэканамічных аперацый | -667680,0 |
| Бягучыя непадатковыя даходы | -359500,0 |
| Даходы ад дзяржаўнай уласнасці і прадпрымальніцкай дзейнасці | -519500,0 |
| у тым ліку прыбытак Нацыянальнага банка | -519500,0 |
| Адміністрацыйныя зборы і плацяжы, паступленні ад некамерцыйных і спадарожных продажаў (або даходы ад аказання паслуг і кампенсацыі затрат дзяржавы) | +160000,0 |
| у тым ліку паступленні ад рэалізацыі рэчаў, затрыманых мытнымі органамі, забраных і канфіскаваных па справах аб кантрабандзе і аб адміністрацыйных мытных правапарушэннях | +160000,0 |
| Капітальныя даходы | -610000,0 |
| Капітальныя непадатковыя даходы | -610000,0 |
| Даходы ад рэалізацыі праведзеных актываў | -610000,0 |
| у тым ліку паступленні ад рэалізацыі дзяржаўных матэрыяльных рэзерваў | -610000,0 |
| Даходы свабодных эканамічных зон | +18000,0 |
| Даходы дзяржаўных мэтавых бюджэтных фондаў | +1725165,0 |
| у тым ліку: | |
| рэспубліканскага фонду падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі і прадуктаў харчавання | +1700000,0 |
| рэспубліканскага фонду аховы прыроды | +25165,0 |

2. Удакладніць паказчыкі функцыянальнай структуры расходаў рэспубліканскага бюджэту на 1998 год у наступных сумах:

*Млн. рублёў*

| | |
|---|---|
| Дзяржаўнае кіраванне і мясцовае кіраванне і самакіраванне | +149513,1 |
| у тым ліку на: | |
| функцыянаванне дзяржаўных органаў выканаўчай улады | +75 803,1 |
| дзейнасць фінансавых і падатковых органаў | +73 133,0 |
| іншыя расходы на агульнадзяржаўнае кіраванне | +577,0 |
| Міжнародная дзейнасць | -450 000,0 |
| у тым ліку на: | |
| міжнароднае супрацоўніцтва | -175 240,0 |
| іншыя расходы, не аднесеныя да іншых катэгорый | -24 760,0 |
| адлічэнні ў бюджэт Саюза Беларусі і Расіі | -250 000,0 |
| Нацыянальная абарона | +417 656,0 |
| у тым ліку на: | |
| арганізацыю дзейнасці, звязанай з ваеннымі патрэбамі | +559 978,0 |
| дзяржаўны цэнтр бяспекі інфармацыі | +600,0 |
| чыгуначныя войскі | +1 356,0 |
| органы ваенных камісарыятаў | +5 722,0 |
| падтрыманне мабілізацыйных магутнасцяў, забеспячэнне мабілізацыйнай падрыхтоўкі | -150 000,0 |
| Праваахоўная дзейнасць і забеспячэнне бяспекі | +655 252,9 |
| у тым ліку на: | |
| органы ўнутраных спраў | +26 487,0 |
| Камітэт па арганізаванай злачыннасці і карупцыі пры Міністэрстве ўнутраных спраў | +3 145,0 |
| унутраныя войскі | +141 654,6 |
| пагранічныя войскі | +65 334,0 |
| крымінальна-выканаўчую сістэму | +152 706,0 |
| органы дзяржаўнай бяспекі | +48 276,6 |
| з іх Служба бяспекі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь | +2 592,6 |
| натарыяльныя канторы | +25 593,0 |
| органы пракуратуры | +8 757,7 |
| мытныя органы | +119 000,0 |
| Галоўнае ўпраўленне ваенізаванай пажарнай службы | +64 299,0 |
| Судовая ўлада | +35 956,8 |
| у тым ліку на: | |
| Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь | +59,6 |
| Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь | +1 351,0 |
| Вышэйшы гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь і гаспадарчыя суды абласцей і г. Мінска | +866,2 |
| судовыя органы | +33 680,0 |
| Навука | +24 133,0 |
| у тым ліку на: | |
| фундаментальныя даследаванні, навукова-тэхнічныя праграмы і праекты | +21 695,0 |
| падрыхтоўку кадраў вышэйшай навуковай кваліфікацыі і атэстацыю навуковых кадраў | +1 336,0 |
| дзяржаўныя архіўныя ўстановы | +1 102,0 |
| Прамысловасць, энергетыка і будаўнічы комплекс | -198 029,5 |
| у тым ліку на: | |
| прамысловасць | -200 000,0 |
| будаўніцтва, архітэктуру і горадабудаўніцтва | +1 970,5 |
| Сельская гаспадарка | +9 290,0 |
| у тым ліку на сельскагаспадарчую вытворчасць | +9 290,0 |
| Ахова навакольнага асяроддзя і прыродных рэсурсаў, гідраметэаралогія, картаграфія і геадэзія | +77 972,0 |
| у тым ліку на: | |
| лясныя рэсурсы | +52 927,0 |
| ахову навакольнага прыроднага асяроддзя, жывёльнага і расліннага свету | +6 120,0 |
| гідраметэаралогію | +10 291,0 |
| зямельныя рэсурсы, картаграфію і геадэзію | +8 634,0 |
| Транспарт, дарожная гаспадарка і сувязь | +2 760,0 |
| у тым ліку на: | |
| паветраны транспарт | -7500,0 |
| іншыя віды транспарту | +10000,0 |
| сувязь | +260,0 |
| Развіццё рыначнай інфраструктуры | -7500,0 |
| у тым ліку на малы бізнес і прадпрымальніцтва | -7500,0 |
| Жыллёва-камунальная гаспадарка | +176,0 |
| у тым ліку на: | |
| добраўпарадкаванне гарадоў і іншых населеных пунктаў | +145,0 |
| іншыя расходы ў галіне жыллёва-камунальнай гаспадаркі | +31,0 |
| Папярэджанне і ліквідацыя вынікаў надзвычайных сітуацый і стыхійных бедстваў | +250893,0 |
| у тым ліку на: | |
| Дзяржаўную праграму па ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС | +2870,0 |
| выплаты льгот і кампенсацый | +241000,0 |
| папярэджанне і ліквідацыю вынікаў надзвычайных сітуацый | +7023,0 |
| Адукацыя | +275127,6 |
| у тым ліку на: | |
| дашкольную адукацыю | +11380,0 |
| агульную адукацыю | +293,3 |
| вучэбна-выхаваўчыя ўстановы спецыяльнага прызначэння | +1123,3 |
| пачатковую прафесійную адукацыю | +7504,3 |
| сярэднюю прафесійную адукацыю | +55478,6 |
| вышэйшую адукацыю | +188836,9 |
| павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўку кадраў | +3869,5 |
| пазашкольную і дадатковую адукацыю | +5528,5 |
| іншыя расходы ў галіне адукацыі | +1113,2 |
| Культура і мастацтва, кінематаграфія | +24741,6 |
| у тым ліку на: | |
| культуру і мастацтва | +24 569,4 |
| кінематаграфію | +172,2 |
| Сродкі масавай інфармацыі | +40 000,9 |
| у тым ліку на: | |
| тэлебачанне і радыёвяшчанне | +19 920,0 |
| перыядычны друк і выдавецтвы | +20 000,0 |
| іншыя ўстановы і мерапрыемствы ў галіне масавай інфармацыі | +80,9 |
| Ахова здароўя і фізічная культура | +152 716,1 |
| у тым ліку на: | |
| ахову здароўя | +263 608,7 |
| санітарна-эпідэміялагічны нагляд | +2 728,1 |
| фізічную культуру і спорт | +27 618,3 |
| іншыя ўстановы і мерапрыемствы ў галіне аховы здароўя | -141 239,0 |
| Сацыяльная палітыка | +204 344,3 |
| у тым ліку на: | |
| установы сацыяльнага забеспячэння | +526,3 |
| сацыяльную дапамогу | +100 800,0 |
| пенсіі і дапамогі ваеннаслужачым | +65 000,0 |
| пенсіі і дапамогі ў органах пракуратуры | -2000,0 |
| пенсіі і дапамогі ў праваахоўных органах | +35 500,0 |
| пенсіі і дапамогі ў органах дзяржаўнай бяспекі | +9 500,0 |
| спецыяльныя сацыяльныя праграмы і мерапрыемствы | -4 982,0 |
| Абслугоўванне дзяржаўнага доўгу | +472 803,9 |
| у тым ліку на: | |
| абслугоўванне дзяржаўнага ўнутранага доўгу | +173 350,0 |
| выпуск і абслугоўванне дзяржаўных кароткатэрміновых аблігацый | -76 546,1 |
| абслугоўванне дзяржаўнага знешняга доўгу | +376000,0 |
| Іншыя расходы | +215742,3 |
| у тым ліку: | |
| фінансавая дапамога бюджэтам іншых узроўняў | +1023068,2 |
| бюджэтныя пазыкі, дэпазіты, паявыя ўзносы | -535164,9 |
| фонд стабілізацыі | +102300,0 |
| іншыя расходы, не аднесеныя да іншых падраздзелаў | -374461,0 |
| з іх дэмаркацыя Дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь | -80700,0 |
| Расходы дзяржаўных мэтавых бюджэтных фондаў | +1571815,0 |
| у тым ліку: | |
| рэспубліканскага фонду падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі і прадуктаў харчавання | +1700000,0 |
| дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці | -153350,0 |
| рэспубліканскага фонду аховы прыроды | +25165,0 |

3. Устанавіць, што фонд стабілізацыі ў 1998 годзе фарміруецца і яго сродкі расходуюцца па рашэнню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь на зніжэнне вынікаў інфляцыі і на сацыяльную падтрымку насельніцтва.

4. Накіраваць сродкі, якія дадаткова паступілі ў 1998 годзе ў рэспубліканскі фонд падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукацыі і прадуктаў харчавання, на наступныя мэты:

*Млн. рублёў*

| | |
|---|---|
| Бягучыя расходы | +1700000,0 |
| Субсідыі | +1700000,0 |
| Субсідыі, звязаныя з выраўноўваннем эканамічных умоў гаспадарання вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі | +120000,0 |
| Кампенсацыя кошту набыцця мінеральных угнаенняў і сродкаў па ахове раслін | +480000,0 |
| Субсідыі на неадкладныя патрэбы | +507900,0 |
| у тым ліку на: | |
| кампенсацыю кошту нафтапрадуктаў, адпушчаных з дзяржаўнага рэзерву на правядзенне сельскагаспадарчых работ | +264900,0 |
| расходы на фінансаванне першачарговых мераў па паскоранаму развіццю шэрагу раёнаў рэспублікі, якія знаходзяцца ў горшых прыродна-кліматычных, экалагічных і эканамічных умовах | +243000,0 |
| Іншыя субсідыі | +592100,0 |

5. Удакладніць сумы расходаў дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці на 1998 год:

*Млн. рублёў*

| | |
|---|---|
| Бягучыя расходы | -136020,0 |
| Закупка тавараў і аплата паслуг | -62421,1 |
| з іх: | |
| утрыманне дзяржаўнай службы занятасці | -7500,0 |
| рэзервовы фонд | -47930,4 |
| іншыя бягучыя расходы | -6990,7 |
| Субсідыі і бягучыя трансферты | -73598,9 |
| у тым ліку: | |
| выплаты пенсій і дапамог | -40598,9 |
| іншыя трансферты | -33000,0 |
| Капітальныя расходы | -17330,0 |

Павялічыць свабодныя сродкі дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці, якія накіроўваюцца на фінансаванне расходаў рэспубліканскага бюджэту, на 153350 млн.рублёў.

6. Накіраваць сродкі ў суме 25165 млн.рублёў, якія дадаткова паступілі ў 1998 годзе ў рэспубліканскі фонд аховы прыроды, на наступныя мэты:

*Млн. рублёў*

| | |
|---|---|
| Бягучыя расходы | +8000,0 |
| у тым ліку на: | |
| закупку тавараў і аплату паслуг | +6000,0 |
| субсідыі і бягучыя трансферты | +2000,0 |
| Капітальныя расходы | +17165,0 |
| у тым ліку на капітальныя ўкладанні ў асноўныя фонды | +17165,0 |
| з іх на будаўніцтва вытворчых (экалагічных) аб'ектаў | +17165,0 |

7. Перадаць у 1998 годзе дадаткова з рэспубліканскага бюджэту ў бюджэты некаторых абласцей датацыі на фінансаванне расходаў, якія не пакрываюцца даходамі мясцовых бюджэтаў і сродкамі фонду фінансавай падтрымкі адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, у памеры 350000 млн. рублёў, у тым ліку Віцебскай вобласці — 100000 млн. рублёў, Гродзенскай — 50000 млн. рублёў, Магілёўскай вобласці — 200000 млн. рублёў.

8. Міністэрству фінансаў забяспечыць у адпаведнасці з гэтым Указам дадатковае фінансаванне расходаў, узгодненых з зацікаўленымі дзяржаўнымі органамі.

9. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
*23 снежня 1998 г., г.Мінск.*

## У ПРЭЗІДЭНТА — НОВЫ ПАМОЧНІК

Міхаіл Сазонаў назначаны памочнікам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Распараджэнне аб гэтым 23 снежня падпісаў Аляксандр Лукашэнка.

**БЕЛТА.**

ПРОИЗВОДСТВЕННОЕ ОБЪЕДИНЕНИЕ
ВИТЯЗЬ

# КРОК У ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ



***ВЫТВОРЧАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ВІЦЯЗЬ», «прапісанае» ў Віцебску, прадпрыемства параўнальна маладое за свае крыху больш за два дзесяткі гадоў працоўнага стажу яно прайшло шлях ад простых лямпавых тэлевізараў, першы з якіх убачыў свет у 1978 годзе, да суперсучасных мадэляў тэлевізійнай тэхнікі. Хоць тэлевізійным завод можна назваць чыста ўмоўна, бо яшчэ на заранку перабудовы ён спецыялізаваўся па выпуску камплектуючых для саюзнай абаронкі. І многія самалёты і падводныя лодкі мелі «віцебскую» начынку. Аб'яднанне і сёння не вузкаспецыялізаванае. На яго канвееры выпрабляюцца наборы мэблі (для дзіцячых пакояў, кухні, прыхожыя), пэўны асартымент медыцынскіх інструментаў (у тым ліку для дыягностыкі СНІДу, генатыпу А і Б) і ўсё ж твар сённяшняга прадпрыемства — гэта выпуск суперсучасных і высакаякасных тэлевізійных прыёмнікаў.***

***Як віцяблянам удалося за параўнальна кароткі тэрмін заваяваць папулярнасць у шматтысячнай арміі пакупнікоў як у Беларусі, так і ў Расіі, якія задачы перад сабой яны ставяць на будучае і шмат пра што іншае — наша размова з намеснікам генеральнага дырэктара ВА «Віцязь» Аляксандрам ЮРКОВЫМ.***

***Аляксандр Юркоў,***
***намеснік генеральнага дырэктара вытворчага аб'яднання «Віцязь»***

## «ТЭЛЕВІЗІЙНАЯ ТЭХНІКА «ВІЦЯЗЬ» — ГЭТА ЯКАСЦЬ СУСВЕТНАГА ЎЗРОЎНЮ»



***— Аляксандр Леанідавіч, буйныя крокі «Віцязя» ў асваенні і выпуску суперсучаснай тэхнікі можна параўнаць з упэўненымі і шырокімі крокамі віцязяў з вядомай казкі Пушкіна.***

— Як кажуць, фантазіі і параўнанням няма межаў. Хоць не трэба забываць, што вытворчасць складанай тэлевізійнай тэхнікі вельмі далёкая ад якіх-небудзь казачных магчымасцяў. Гэта сёння, маючы пэўны вопыт у тэлевізійнай справе, і багаты асартымент тавару, мы нават можам назваць віцебскія тэлевізары казачна багатымі на функцыянальныя здольнасці прыёмнікамі, з прывабным знешнім выглядам, якаснай «начынкай». А яшчэ гады тры-чатыры таму нам было не да казак. Гэта быў цяжкі перыяд, калі абвастрылася канкурэнцыя на расійскім і беларускім рынку, бо фактычна без абмежаванняў былі адкрыты межы для імпартнай TV-тэхнікі, якая вялікім патокам хлынула на постсавецкія прасторы. Многія яго тэлевізійныя прадпрыемствы, а іх у былым Саюзе было звыш 30, аказаліся не гатовымі да такога павароту падзей. Як вынік, у Расіі фактычна не засталося заводаў па вырабу тэлевізараў. І толькі «Рэкорд» і «Рубін» існуюць на замежных камплектуючых. А вось у Беларусі стабільна працуючым быў і застаўся «Віцязь». Не згубіўся на хвалях рыначнай эканомікі і мінскі «Гарызонт».

***— Што ў большай ступені паўплывала на выжывальнасць вашага прадпрыемства?***

— Тут шмат фактараў. Я не буду казаць, што нам поўнасцю прыйшлося змяніць свой тэлевізар. Гэта і так відавочна, калі параўноўваць першыя мадэлі і цяперашнія. Мы спыніліся толькі на якасных камплектуючых.

Значна абнавілі дызайн тэлепрыёмнікаў і іх асартымент. Калі яшчэ некалькі гадоў таму на канвееры завода былі 2 TV-мадэлі, то цяпер на патоку больш за 20 мадэляў. Штомесяц яны ў рознай колькасці паступаюць у продаж.

Акрамя таго працуем і далей над пашырэннем асартыменту, павелічэннем функцыянальных здольнасцяў. Некалькі месяцаў таму з'явіўся на свет новы тэлепрыёмнік — 37 см па дыяганалі, які пры сучасным знешнім выглядзе мае ручку для пераносу, і яна вельмі арганічна ўпісваецца ў агульны дызайн навінкі. Дарэчы, попыт на яго расце і аб'ём продажу павялічваецца. Практычна днямі з канвеера сходзіць вопытная партыя тэлевізараў з больш сучасным знешнім выглядам, дзе аналага-лічбавая «начынка». А гэта ўжо наступная прыступка ў тэлевізійным свеце. Можна сказаць, пераход да 7-га пакалення.

Яго адметнасць у тым, што пры рэгуліроўцы зусім не патрэбен чалавек. Яна ажыццяўляецца камп'ютэрам з дапамогай праграмнага забеспячэння. Так што зараз мы можам смела сказаць: тэлевізійная тэхніка вытворчага аб'яднання «Віцязь» — гэта якасць сусветнага ўзроўню.

***— Адным з важных састаўляючых попыту з'яўляецца даступная цана.***

— Безумоўна. Тым болей, што ў доларавым эквіваленце цэны пастаянна змяншаюцца. І, каб утрымацца на рынку, трэба пастаянна зніжаць сабекошт прадукцыі. Далёка, думаю, па прыклады хадзіць не трэба. У жніўні ў Расіі пачаўся крызіс. Практычна ўсе заходнія фірмы знялі сваю прадукцыю з продажу. І там склалася як бы спрыяльная для нас сітуацыя для рэалізацыі тавараў, кошт якіх на 15—20 працэнтаў ніжэй. Іншаземныя вытворцы тэлевізійнай тэхнікі менавіта праз 1—1,5 месяца з такімі цэнамі вярнуліся на расійскі рынак.

***— Але ж там ужо быў «Віцязь»...***

— Можаце лічыць, што так. Але ж мы прабіраліся туды не адзін дзень ці месяц. Часта здараецца так, як у той прымаўцы: не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло. Гэта я аб зніжэнні сабекошту прадукцыі. Як вядома, практычна ўсе замежныя пастаўшчыкі працуюць са сваімі кліентамі на доўгатэрміновай аснове.

Дык вось, пасля наступлення расійскага крызісу заходнія пастаўшчыкі кінескопаў трапілі ў незайздроснае становішча, калі іх прадукцыя ў многіх портах Еўропы скапілася ў вялікай колькасці і заставалася незапатрабаванай. Яны павінны былі скінуць цэны на тавар да мінімуму і адцаць нам тысячы кінескопаў па сабекошту і ў лік таварнага крэдыту, і за грошы.

Пасля гэтага мы вымушаны былі таксама скінуць цану, што і дазваляе нам утрымлівацца на заваяваных рынках.

На сёння вытворчае аб'яднанне «Віцязь», цесна працуючы з такімі сусветна вядомымі фірмамі, як Philips, Siemens, Samsung і іншымі, практычна ўсю месячную праграму па кінескопах атрымлівае ў крэдыт. Аплачвае толькі праз 30 дзён з моманту пастаўкі камплектуючых. За час работы мы практычна ні разу не падвялі заходніх партнёраў, чым значна павысілі рэйтынг «Віцязя» ў іх вачах. А гэта вельмі важна. Яны нам даюць сваю прадукцыю без прадстаўлення намі банкаўскіх гарантый і ўрадавага залогу маёмасці. Таму і ў перыяд крызісу мы не знізілі аб'ёмаў закупак кінескопаў і камплектуючых ад вытворцаў вядучых краін свету.

***— Аляксандр Леанідавіч, вялікая колькасць імпартных матэрыялаў, на якіх грунтуецца вытворчасць сучасных тэлевізараў «Віцязь», для некаторых можа з'явіцца падставай сказаць, што ваша прадпрыемства — гэта не болей чым зборачны цэх.***

— Намёк зразумеў. І калі такія размовы ў наш адрас будуць ад каго-небудзь зыходзіць, то адразу скажу, што гэта не пра нас, бо мы вельмі актыўна працуем з беларускімі пастаўшчыкамі — вытворчымі аб'яднаннямі «Інтэграл», «Транзістар», «Белвар», Віцебскім заводам радыёдэталяў.

Так, у нас зараз высокі ўзровень імпартнай камплектацыі — прыкладна 80 працэнтаў, з якіх большая частка прыпадае на кінескоп. На жаль, іх у Беларусі нідзе не выпускаюць.

Імпарт — гэта значыць, што значную частку валютнай выручкі мы павінны траціць на закупку камплектуючых за межамі рэспублікі. І толькі з-за таго, што ў нас іх не выпрабляюць, ці выпрабляюць, але вельмі нізкай якасці. Калі прычынай з'яўляецца апошняя, то мы закупкі не робім, але працягваем з такім прадпрыемствам працаваць.

Дарэчы, калі па максімуму давесці ўсе магчымыя рэзервы па закупцы камплектуючых айчыннай вытворчасці, то ступень «беларускасці» тэлевізара складзе 31 працэнт. Астатняе ўсё роўна мы вымушаны будзем закупляць за мяжой.

Паўтаруся, што ВА «Віцязь» — заканадаўца моды на беларускім і расійскім рынках. А таму мы павінны пастаянна ўдасканальваць тэхнічны ўзровень прадукцыі і прымяняць заўсёды новую элементную базу вядучых фірмаў свету.

Праўда, пры гэтым аналагі некаторых відаў камплектуючых, вытворчасць якіх можна асвоіць унутры рэспублікі, будуць перададзены для асваення на «Інтэграле». Няхай ён «абкатвае» дэталь, а потым прапаноўвае яе нам. Атрымліваецца, што, пераходзячы на чарговую ступень развіцця, мы воляй-няволяй падцягваем да належнага ўзроўню беларускіх пастаўшчыкоў.

Яшчэ адзін прыклад «патрыятызму». Да нядаўняга часу ледзь дыхаў завод па вытворчасці рэзістараў у Пружанах. Аднак мы змаглі рэаніміраваць яго дзякуючы заказам на ўказаныя «запчасткі» для TV. Доўга прыглядаліся да завода радыёдэталяў у Віцебску з надзеяй, што тут змогуць наладзіць выпуск якасных кандэнсатараў. Праўда, калі глянулі на статыстыку адходаў па сваіх тэлевізарах, то высветлілася, што збоі даюць указаныя кандэнсатары. Таму ў экстранным парадку прыйшлося адмовіцца ад паслуг суседзяў. Пакупніку ж няважна па якой прычыне сапсаваўся тэлевізар. А нам падмочаная рэпутацыя не патрэбна. Але ж, заўважце, мы адмовіліся ад супрацоўніцтва з заводам радыёдэталяў не назаўсёды. Зараз супрацоўніцтва на стадыі аднаўлення.

Патэнцыяльныя партнёры павінны ведаць даўно вядомую рыначную запаведзь, якая сцвярджае: не будзеш выпускаць якасную прадукцыю — ні на які рынак не праб'ешся.

***— Аляксандр Леанідавіч, геаграфія паставак віцебскіх тэлевізараў пакуль абмяжоўваецца Расіяй?***

— Так. Лічыце, са 170 тысяч тэлевізараў, выпушчаных на прадпрыемстве ў 1998 годзе, прыкладна 30 працэнтаў напрамую рэалізаваны за межы рэспублікі. Хоць я не сумняваюся, што гэтая лічба, якая сведчыць аб папулярнасці «Віцязя» ў Расіі, як мінімум разы ў два большая.Бо значная колькасць TV купляюцца расіянамі ў Беларусі і вывозяцца. Дадайце сюды «чаўночны» бізнес, заснаваны на рознасці валютных курсаў як у нас у дзяржаве, так і за яе межамі.

Нямала тэлепрыёмнікаў «Віцязь» бяруць прадпрымальнікі. Здараецца і так, што нейкае беларускае прадпрыемства просіць нас прадаць яму пэўную колькасць «Віцязяў» для разліку імі за нейкую прадукцыю за межамі Беларусі. Так што наш тавар — гэта своеасаблівая валюта.

***— Зараз кожнае «жывое» прадпрыемства, якое выпускае тавары народнага спажывання, стараецца арганізаваць свой фірменны гандаль...***

— І «Віцязь» тут не выключэнне. На сённяшні дзень у нас толькі па Беларусі 15 філіялаў з 28 магазінамі. Задача іх — зблізіць прадаўца і пакупніка. Пра высокую культуру абслугоўвання, мінімальныя нацэнкі на тавар, «жывыя» грошы і пра многія іншыя выгады для нас і пакупнікоў я ўжо не кажу.

Дарэчы, праз фірменныя магазіны ў сярэднім праходзіць 65—70 працэнтаў агульнага таваараабароту. Таму за фірменным гандлем — будучае. У бліжэйшы час новая гандлёвая кропка з маркай «Віцязя» павінна адкрыцца ў Лідзе.

***— Праз два дні настае новы 1999 год. Што б вы пажадалі людзям напярэдадні гэтага свята?***

— Канешне, здароўя, поспехаў, кахання. Тых, хто праўдзе навагодняе застолле перад тэлевізарам «Віцязь» хачу запэўніць, што ён не падвядзе. Глядзіце хоць усю ноч. Калі ж вы яшчэ не набылі сучасны тэлевізар і раздумваеце які ўзяць, то, параю: купіце «Віцязь» — і вы ніколі не пашкадуеце аб гэтым.

**Матэрыялы старонкі падрыхтаваў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## СЕТКА СЕРВІСНЫХ ЦЭНТРАЎ ПА БЕЛАРУСІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Баранавічы | (01634) 2-31-64; | Магілёў | (0222) 22-15-85; |
| Брэст | (0162) 46-15-41; | Мазыр | (02351) 2-39-21; |
| Бабруйск | (02251) 2-38-59; | Маладзечна | (01773) 5-27-54; |
| Гомель | (0232) 55-87-11; | Орша | (02161) 4-06-59; |
| Гродна | (0152) 44-83-21; | Пінск | (01653) 5-96-70; |
| Крычаў | (02241) 2-30-61; | Полацк | (02144) 4-23-23; |
| Мінск-1 | (017) 256-29-67; | Салігорск | (01710) 2-14-14. |
| Мінск-2 | (017) 234-28-39; | | |

**Вытворчае аб'яднанне «Віцязь»**
Рэспубліка Беларусь, 210605, г. Віцебск, вул. П. Броўкі, 13а
Тэл.: (0212) 22-00-50, 22-19-01. Факс: (0212) 22-37-52
Тэлетайп: 157283 ЗЕНИТ. E-mail: zavod@vityaz.belpak.vitebsk.by



**Святлана Каротка сочыць за якасцю прадукцыі на ўчастку дробных серый.**



**Кантралёр Людміла Рубанава.**



**На ўчастку рэгуліроўкі тэлевізараў.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# КІРМАШ



ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 52 (170)


*Ідэі і людзі*

**Дырэктар Прыдняпроўскай птушкафабрыкі Мікалай БАЛУК:**

## «НАШ КАЛЕКТЫЎ ПРАЦУЕ ДОБРАСУМЛЕННА!»



**Прыдняпроўская птушкафабрыка Магілёўскага раёна з'яўляецца спонсарам розыгрышу прызоў сярод падпісчыкаў газеты «Звязда» ў I квартале будучага года. Гэта вядомае ў раёне і вобласці прадпрыемства прадаставіла галоўны, жывы прыз розыгрышу — дзесятак курэй з пеўнем.**

**А на самой птушкафабрыцы працоўны калектыў рыхтуецца да навагодніх святаў і, як гэта прынята, падводзіць вынікі сваёй працы ў 1998 годзе і вызначае планы на год будучы. Пра гэта расказвае дырэктар Прыдняпроўскай птушкафабрыкі Мікалай Андрэевіч БАЛУК:**

— Гэты год, у параўнанні з леташнім, мы заканчваем з лепшымі паказчыкамі. Ва ўсякім разе, так павінна быць! Валавую вытворчасць яек мы павялічылі прыблізна на 2,5—3 мільёны штук. Сёння ў гандаль мы штодзённа аддаём 120 тысяч штук яек. Астатняе ж прыходзіцца экспартаваць, каб атрымаць кармы і бялкова-вітамінныя дабаўкі. Так, сёння існуе праблема забеспячэння кармамі, але ўсё ж кіраўніцтва птушкафабрыкі імкнецца рознымі шляхамі гэтую праблему вырашыць.

У жніўні 1997 года да Прыдняпроўскай птушкафабрыкі быў далучаны былы калгас «Перамога», і цяпер наш аб'яднаны калектыў складае 870 чалавек. Сёлета паказчыкі па жывёлагадоўлі ў нас павінны павялічыцца прыкладна на трэць. Надой ад каровы сёлета складзе 3800 кілаграмаў супраць 2800 летась. Пагалоўе птушак і буйной рагатай жывёлы мы трымаем у норме.

Калі казаць пра перспектывы на будучы год, то мы плануем ушчыльную заняцца пытаннямі перапрацоўкі. Лічым, што без паглыбленай перапрацоўкі прадаваць прадукцыю птушкафабрыкі выключна сыравінай для нас сёння нявыгадна. Таму трэба стаць на такі шлях, калі на прадпрыемстве можна будзе не толькі вырабіць, але і перапрацаваць нашу прадукцыю, каб прадаць яе менавіта ў тым выглядзе, у якім яна павінна з'явіцца на прылаўках магазінаў.

У наступным годзе плануем завяршыць будаўніцтва і ўвесці ў строй цэх па вытворчасці камбікорму, за кошт чаго павінна палепшыцца фінансавае становішча нашай птушкафабрыкі. Мяркуем таксама, што і надалей не знізім вытворчасць прадукцыі птушка- і жывёлагадоўлі. Канешне, пачыналі мы калісьці з нуля, а вось сёння ўжо на нармальным узроўні, таму і можам кожны год трохі прыбаўляць. Але калі планаваць выйсці на надой у 4000 кілаграмаў ад каровы, то нам трэба будзе сур'ёзна заняцца племянной справай.

Трэба адзначыць, што на Прыдняпроўскай птушкафабрыцы рэгулярна выплачваецца заработная плата, якая зараз у сярэднім складае шэсць мільёнаў рублёў. Народ у нас працуе добрасумленна. А я лічу, што ў тых нашых работнікаў, якія працуюць належным чынам — а іншых мы і не трымаем на птушкафабрыцы, — няма прычын для нездаволенасці: і заробак, і іншыя ўзнагароджанні яны атрымліваюць.

Напярэдадні новага года ў нас пройдзе серыя святочных «агеньчыкаў» для нашых супрацоўнікаў. Адбудзецца вечарына і для пенсіянераў, якіх мы таксама імкнёмся падтрымаць.

А з дапамогай вашай газеты я хачу шчыра павіншаваць увесь працоўны калектыў Прыдняпроўскай птушкафабрыкі з надыходзячым 1999 годам і пажадаць моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, поспехаў у вучобе, на вытворчасці і на адпачынку. Няхай новы год прынясе ўсім нам радасць і шчасце!

**Падрыхтавала Ілона ІВАНОВА.**
**Фота Мікалая ЦІТОВА.**









Чалавеку Бог падарыў самае дарагое, чым валодаў, — жыццё. Ад шчырай душы віншуем Вас, былога актыўнага і баявога партызана **Уладзіміра Уладзіміравіча КАШЭЎСКАГА,** са слаўным юбілеем — 75-годдзем з дня нараджэння.

*Вы прайшлі па трывожнай дарозе*
*Ўсю вайну — да апошняга дня.*
*Мы жадаем, каб ніколі ў трывозе*
*Не жылі ні хвіліны ні Вы, і радня!*

*З усёй шчырасцю* ***дачка, зяць, унукі.***

## Мы застаёмся з Вамі. Заставайцеся з намі і Вы

**Дарагія нашы чытачы!**

Апошнім часам мы атрымліваем шмат Вашых пісьмаў з пытаннем: «Што здарылася? Чаму любімая газета замест пяці разоў на тыдзень выходзіць тры-чатыры, а то і два разы?» Такія пытанні задаюць людзі і па тэлефоне.

Справа ў тым, што крызіс, які ахапіў Расію (адзіны вытворца паперы) і Беларусь, зрабіў сваю чорную справу: выпуск газеты стаў стратным. Грошай падпісчыкаў не хапае нават на паперу. Вось сумныя факты: калі ў пачатку 1998 года папера каштавала 13—14 мільёнаў рублёў за тону, то ў снежні кошт адной тоны склаў 172 мільёны рублёў. Каб было больш зразумела: рэдакцыі трэба заплаціць за 1 кілаграм чыстай, нават не разрэзанай, паперы 172 тысячы рублёў. Гэта амаль столькі ж, колькі каштуе ў магазіне 1 кілаграм масла. І яшчэ дзве лічбы: на адным кілаграме паперы можна надрукаваць 20 экземпляраў газеты. Столькі нумароў Вы, шаноўныя чытачы, атрымліваеце ў месяц. Але месячная падпісная цана ў 48 тысяч рублёў, як бачна, не кампенсуе нават трэці кошту паперы.

Мы ўжо не кажам пра аплату паслуг друкарні, «Белпошты», арэндныя плацяжы за памяшканне, транспарт і да т.п., хаця і тут цэны таксама выраслі ў шмат разоў. Дзяржава стараецца падтрымаць друкаваныя выданні, але і яе магчымасці не бязмежныя.

Нам горка пра гэта гаварыць, але ў сённяшняй эканамічнай сітуацыі рэдакцыя не можа даць гарантыі, што ў будучым годзе чытачы «Звязды» змогуць рэгулярна, пяць разоў на тыдзень, атрымліваць газету. Не для ўласнага заспакаення, а як канстатацыя рэальнасці: у падобнай сітуацыі аказаліся ўсе газеты рэспублікі.

Мы разумеем і падзяляем пазіцыю тых чытачоў, якія нагадваюць, што недаравальна, калі адзіная штодзённая беларускамоўная газета, якая выходзіла нават у змрочныя часы нямецка-фашысцкай акупацыі, вымушана будзе спыніць сваё існаванне. Якія прапануюцца выхады з гэтага цяжкага становішча?

1. Устанавіць на II квартал рэальную падпісную цану.

2. Каб не пакінуць малазабяспечаных людзей без друкаванай інфармацыі, звярнуцца з просьбай да кіраўнікоў дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў, прафсаюзных арганізацый, фондаў аказаць пасільную дапамогу такім людзям у падпісцы ці перападпісцы.

3. Тым, хто шануе роднае слова, сваю гісторыю (а «Звязда» ўжо амаль 82 гады разам з народам Беларусі дзеліць усе радасці і няўзгоды) і мае магчымасць падтрымаць газету размяшчэннем рэкламы, — зрабіць гэта. Наш разліковы рахунак 3012210270016 у АКБ «Белбізнесбанк» г. Мінска, код 739.

Са свайго боку калектыў рэдакцыі зробіць усё магчымае, каб «Звязда» не толькі выжыла, а і заваявала новых прыхільнікаў сваёй адданай і сумленнай працай на карысць нашага народа.

Мы верым, што сапраўдныя сябры не пакідаюць у дні выпрабаванняў адзін аднаго. Мы застаёмся з Вамі. Заставайцеся з намі і Вы.

**Калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

***НАСТУПНЫ НУМАР ГАЗЕТЫ «ЗВЯЗДА» ВЫЙДЗЕ Ў ЧАЦВЕР 31.12.98 Г.***

### РОЗНАЕ





## Напрыканцы года больш чым напалову падаражэў транспарт...

З 25 снежня больш чым напалову павялічыліся тарыфы на паслугі прыгараднага і міжгародняга аўтамабільнага пасажырскага транспарту. Цяпер у абодвух выпадках кошт аднаго кіламетра праезду складае: у аўтобусах агульнага тыпу — 1100 рублёў (было 700 рублёў), у машынах з мяккімі крэсламі — 1150 рублёў (было 730 рублёў за кіламетр праезду).

З 20 снежня павялічыліся і тарыфы на праезд у таксі. Так, з пазначанай даты гранічны кошт аднаго кіламетра праезду складае 22 тысячы рублёў (было 15 тысяч). За так званую пасадку давядзецца плаціць ужо 20 тысяч рублёў (было 15 тысяч), за гадзіну прастою пра віне пасажыра — 220 тысяч рублёў (да гэтага 150 тысяч). Павелічэнне тарыфаў датычыцца аўтатаксапрадпрыемстваў усіх формаў уласнасці.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## У снежні сталічныя кватэры пачалі значна расці ў цане

Менавіта ў апошні месяц года павелічылася колькасць расійскіх грамадзян, якія вырашылі набыць ва ўласнасць жыллё ў Мінску. Як паведамілі рэдакцыі ў інфармацыйнай службе Беларускай асацыяцыі «Нерухомасць», за апошні месяц 1 квадратны метр агульнай плошчы мінскіх кватэр павялічыўся ў сярэднім на 50 долараў ЗША. Атрымліваецца, што кошт сярэдняй аднапакаёвай кватэры агульнай плошчай 40 квадратных метраў сёння стаў ужо на 2 тысячы долараў больш, чым 30 дзён таму. Кошт кватэр у сталіцы Беларусі будзе расці і надалей, пакуль не зраўнуецца з цаной ў буйнейшых гарадах Расіі.

**Сяргей КУРКАЧ.**




ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.



*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі, сакратарыята — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* **«ДЛЯ ВАС»** *— 32-44-12.*





Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 101.039. Індэкс 63850.
Зак. № 7569.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12